Год выдавецтва 1. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІ і ПАЛІТЫЧНЫ, ДВУТЫДНЁВІК.

№ 1 | 1 КАСТРЫЧНІКА. | 1927 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Людвісарская вул. № 1.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА да канца года 1 зл. 50 гр.



## АД РЭДАКЦЫІ.

Усякі, хто прыглядаўся ў астатнія часы да нашага беларускага культурнага жыцьця, ня мог не заўважыць шырокага разьвіцьця беларускага выдавецтва. У сучасны мамэнт у аднэй Вільні выдаецца чатыры беларускіх газэты, якія лічуць сваіх падпішчыкаў тысячамі і каля дзесятка розных тыднёвікаў і двухтыднёвікаў.

Гэтыя пэрыядычныя выданьні трымаюцца розных палітычных кірункаў і захапліваюць больш-менш усе галіны і куткі нашага беларускага жыцьця. І ўсё-ж такі мы павінны адзначыць, што ёсьць яшчэ адна пэўная галіна, якая дагэтуль астаецца занедбанай, хоць з нашага пагляду, яна ёсьць адна з самых найважнейшых у жыцьці народа. Маем на ўвазе жыцьцё царкоўнае, якое заўсёды ў гісторыі нашай мела найважнейшае значэньне, а ў гэтыя часы адраджэнскага руху ў беларускім народзе ёсьць пэўная патрэба асьвятленьня царкоўнай справы з боку нацыянальнага.

Запаўненьня гэтага, як гаворыцца, „прабелу" у нашай нацыянальнай перыодычнай прэсе мы і ўважаем за першую і найважнейшую нашу задачу.

Але царкоўнымі справамі не ахапліваецца ўсё жыцьцё нашага народу. У часы адраджэнскага руху і барадзьбы за сваю палітычную судзьбу і нацыянальныя ідэалы не магчыма праходзіць міма пытаньняў палітычных, сацыяльных, нацыянальных і культурных. Рэдакцыя ўважае за

свой абавязак асьвятляць і гэтыя бакі беларускага жыцьця, не астаўляючы аднак сваей галоўнай мэты і напрамку — асьвятленьня гэтых рэчаў з пункту гледжаньня хрысціянска-праваслаўнага.

Тых праваслаўных беларусаў, якія ў сваім жыцьці не адсталі ад сваей веры і нацыянальнасьці мы і ўважаем за галоўны склад нашых будучых чытачоў і супрацоўнікоў.

Мы верым у сьветлую будучыну нашага беларускага народу, але верым і ў тое, што яго праўдзівае адраджэньне адбудзіцца на падставах царковна-хрысціянскіх, або ня адбудзіцца зусім.

Усіх, хто таксама хоча верыць у гэта і працаваць на гэтай ніве, мы заклікаем да супольнай працы.

РЭДАКЦЫЯ.

Вільня, 1 кастрычніка 1927 г.

# Царква і Дзяржава.

Пытаньне аб адносінах паміж царквой і дзяржавай,—паміж уладай царкоўнай і ўладай сьвецкай,—ёсьць адно з самых найважнейшых, бо ад правільнага разьвязаньня гэтага пытаньня, часта цалком залежыць нармальнае жыцьцё, а нават і судзьба і той, і другой.

Разважываючы тэорэтычна гэтую справу, можна прэдставіць сабе гэтакія магчымыя формы адносін паміж царквой і дзяржавай:

1. Царква цесна зьвязана з дзяржавай і ў сваей ідэолоґіі, і ў практычным жыцьці. Пры гэтым можа быць так, што царкоўнае жыцьцё зусім ахоплівае сабой жыцьцё дзяржаўнае. У такім разе законы царкоўныя становяцца законамі дзяржаўнымі, улада сьвецкая падпарадкаваецца ўладзе царкоўнай, як вышэйшай. Да гэтага парадку ў сваім часе імкнулася, да і цяпер імкнецца царква р.-каталіцкая, чаго яна і дабілася часова ў сярэдніх вяках.

А можа быць і наадварот: цесная сувязь паміж царквой і дзяржай можа выявіцца ў тым, што сьвецкая ўлада падпарадкавае сабе ўладу царкоўную. Так было, напрыклад, у Візантыі, дзе імрператарскія законы ў царкоўных справах лічыліся за законы царкоўныя. Так было і ў царкве расейскай, пачынаючы ад імператара Пётры I аж да часоў рэволюцыі.

2. Царква і дзяржава лічацца асобнымі, зусім вольнымі і незалежнымі адна ад другой, як такія, увaходзяць у нейкую паміж сабой згоду (conkordat), якой і акрэсьліваецца ўзаёмная сувязь і адносіны паміж уладай царкоўнай і сьвецкай. Такія згоды часта заключала з рознымі дзяржавамі р.-каталіцкія папы. Недаўна такі канкардат быў устаноўлены паміж папай рымскім і польскай уладай і сьцьверджаны соймам і сэнатам.

3. Царква і ўлада зусім адзеляюцца адна адругой. Рэлігія ў такім разе абяўляецца справай прыватнай. Усякая царква, або рэлігійная абшчына, ў такім разе можа істнаваць на тых самых падставах, як і ўсякая прыватная арганізацыя. Такі парадак, больш-менш ёсьць напрыклад, у Амэрыцэ і ў Францыі.

Дзякуючы таму, што ў большасьці дзяржаваў жывуць людзі не аднэй якой рэлігіі, а розных, справа адносін паміж царквой і ўладай сьвецкай дае магчымасьць новых камбінацыяў. Напрыклад:

4. У дзяржаве адна рэлігія прызнаецца за галоўную, дзяржаўную, ці „господствующую“, а іншыя толькі церпяцца (так было да астатніх часоў у Расеі). Бывае, што якія нібудзь і зусім ня

церпяцца і забараняюцца, як было з хрысціянствам у Рымскай імперыі ў першыі тры сталецьця яго істнаваньня, у сярэдніе вякі ў каталіцкіх странах, у старай Расіі, бывае, як мы ведаем, і цяпер...

5. У дзяржаве няма „господствующей“, ці панствовай, рэлігіі, але няма і поўнага падзелу паміж рэлігіямі і дзяржавай. У такім разе адносіны іх акрэсьліваюцца тымі ці іншымі згодамі паміж асобнымі цэрквамі і ўладай, ці проста панствовымі законамі большменш на агульных падставах канстытуцыі. Такое станавішча юрадычна ёсьць у гэтыя часы ў Польшчы.

6. Першы перыод французскай рэвалюцыі і сучасная практыка ў СССР. далі нам яшчэ адну форму адносінаў дзяржавы да царквы, дзе ўсякая рэлігія прызнаецца ня толькі прыватнай справай, але нават справай шкоднай для дзяржавы—справай, з якой трэба вясьці барадзьбу як з нейкай атрутай („рэлігія ёсьць опіум для народа“), ці з заразнай хваробай. Але гэту форму ня можна нават і разглядаць як форму адносін **дзяржавы** да рэлігіі, бо гэтую форму высунуў у жыцьцё той крайні від сацыялізму (комунізм), які **сам фактычна імкнецца стаць рэлігіей**. Адсюль і яго безапеляцыйная даматычнасьць, і фанатызм, і нават асобная прыхільнасьць да наружных рэлігійных формаў: прецэссіі, урачыстасьці, гэтак далей, нават свае „мощи“ (набальзамаваны труп Леніна). Гэта ёсьць рэлігія безбожжа.

Разважаючы крытычна ўсе гэтыя формы з пункту гледжаньня хрысьціянскай веры і культурных паняцьцяў аб дзяржаўным праве, мы безумоўна павінны адкінуць першую форму.

Царква ня можа браць на сябе **як абавязак** тое, што зьяўляецца самымі першымі абавязкамі дзяржавы: урады, войска, суды і г. д. „Царства маё не ад гэтага міра“ сказаў Хрыстос, і гэтым паказаў, што дзяржава і царква маюць па сутнасьці сваей розную прыроду, і розныя мэты свайго істнаваньня. Дзяржава мае сваей мэтай стварэньня і ўпарадкаваньня жыцьця туташняга,—на зямлі, царква мае сваей мэтай прыгатаваньня нам вечнага жыцьця на небе. Дзяржава ў сваім кіраваньню народамі карыстаецца **сілай фізычнай**, царква—**маральнай** і нават **зверх-фізычнай, духоўнай** (ц.-сл. „благодать“). Калі мы яшчэ бліжэй прыглядзімся да таго якімі мэтодамі **фактычна** карыстаюцца дзяржавы ў сваім палітычным жыцьці, то гэта немагчымасьць поўнага аб'еднаньня дзяржавы і царквы стане для нас зусім яснай.

„Для государственныхъ цѣлей,—можетъ быть полезенъ—пішэ адзінъ расейскі сучасны філософъ,—человѣкъ-палачъ или шпіонъ. Государству вообще во многихъ случаяхъ бываетъ нужна подкупная человеческая совѣсть. Для него может быть полезно, чтобы всѣ его подданные стали совершенными орудіями войны, жестокими и безжалостными къ людямъ другой рассы“ і г. д.*). З усім гэтым, наадварот, павінна вясьці барацьбу царква. Ясна, што яна ня можа, не адрокшыся ад сваей ідэалогіі, ужываць гэткія мэтоды. Ясна з гэтага і тое, што яна ня можа ўваўсім падпарадкавацца дзяржаве, а перадусім за тое, што дзяржава ня мае ў сабе той Божаскай духоўнай сілы („благодати“), якой паводле сваей веры распаражаецца царква.

Адсюль ясна, што мы павінны адкінуць магчымасьць поўнага аб'еднаньня хрысціанскай царквы з дзяржавай бяз пэўнай шкоды, ў кажным разе для першай.

Але ці магчыма прызнаць і поўны падзел паміж імі,—такі, пры якім не было-б ніякай сувязі? Няхай сабе дзяржава і царква, як арганізацыі, маюць розныя прыроды, але-ж складаюцца яны з адных і тых самых людзей? Няхай праўда тое, што дзяржава часта мае патрэбу „у людзёх з падкупной совесцьцю“, але ці ня часцей яшчэ яна мае патрэбу ў людзёх чэсных, верных, справядлівых,—такіх, аб узгадаваньні, якіх стараецца царква? Сама дзяржава ня будзе мець сілу ўзгадовываць такіх, ба, як паказала практыка, мораль („нравственность“) заўсёды трымаецца на Вышэйшым (Божыім) аўторытэце. Не дарма, нават, самы знамяніты „бязбожнік“ (Вольтэр) і той сказаў, што „калі-б Бога і ня было, дык яго трэба было-б выдумаць“. З другога боку, як арганізацыя, складаючыся з людзей, і царква мае патрэбу ў такіх вонкавых

*) Е. Трубецкой. „Смыслъ жизни“. Берлинъ 1922 г., стр. 39.

абставінах свайго жыцьця (царкоўныя будынкі, свабода богамаленьня, свабода духавенства ад вайсковай павіннасьці, духоўная навука і г. д.), якія цалком залежуць ад дзяржаўных уладаў.

Усё гэта праўда. Але калі мы гаварылі аб адлучэньні царквы ад дзяржавы, то пад гэтым зусім не разумелі таго, быццам паміж царквой і дзяржавай няма і ня можа быць ніякіх пунктаў сутыку, ніякай ўзаемадзеяльнасьці, ніякай сувязі. Безумоўна і царква павінна нешта рабіць для дзяржавы, і дзяржава для царквы.

Узаемнадзеяльнасьць гэта, ці сувязь ёсьць, і быць павінна, але **папярэдняй справай пав'нен быць падзел, бо бяз гэтага падзелу не магчыма і ніякая свабодная сувязь**, ці свабодная ўзаемнадзеяльнасьць, бо калі перад гэтым ці царква была ў залежнасьці ад дзяржавы, ці дзяржава ад царквы, то, як маглі-б яны ўвайсьці ў заемную **свабодную** згоду. „Свабодная царква ў свабоднай дзяржаве“*),—гэтая формула ўсё-ж такі астаецца як найляпей выражаючая **павінныя** (должныя) адносіны паміж дзяржавай і царквой.

Астаецца вырашыць два пытаньні: **у якой форме** могуць выразіцца гэтая свабодная сувязь і ў **чым павінна быць узаёмадзеяльнасць** дзяржавы і царквы?

Р.-каталіцкі захад, як мы бачылі, выпрацаваў вядомую форму конкордата. Конкордат гэта ёсьць пісьменны акт юрыдычнага парадку, у якім выкрэсьляны усе ўзаемныя правы і абавязкі, падобна да таго, як робіцца паміж дзяржавамі.

Нічога прынцыпова ня можна сказаць проціў гэтай формы, тым больш, што да гэтага ці царква, ці дзяржава могуць быць змушаны папярэднімі варункамі. Усякая згода лепш вайны. Але ўсёж-такі, гледзячы з пункту гледжаньня праваслаўнага, мы павінны адзначыць, што гэтая форма больш адпавядае духу р.-каталіцкай царквы, якая сама сябе уважае за тэократычную зямную дзяржаву, а фактычна ў гісторыі і бывала такой, ды і дагэтуль захавала вонкавыя формы дзяржавы (напр. мае сваіх паслоў у розных сьвецкіх дзяржавах). Праваслаўнаму духу больш адпавядае не юрыдычная, а моральная сувязь.

Пры юрыдычнай згодзе ў акт гэтай згоды заўсёды могуць папасьць такі чыста палітычныя пункты, якія не адпавядаюць палітычным поглядам усіх верных, з якіх складаецца царква, а гэтым ужо было-б зьвязана іх сумленьне, а з другога боку і царква гэтым самым прыняла-б на сябе абавязак падтрыманьня таго, ці іншага, палітычнага строю, г. ё. ужо з сфэры царкоўнай перайшла-б у сфэру палітычную. І наадварот, дзяржава ўзамен маральных, шчырых адносін **цэлай царквы**, рызыкуе атрымаць толькі формальна юрыдычныя абяцаньні—**ад найвысшай іерархіі.**

Трэба азначыць тое, што самыя асновы адносін паміж царквой і дзяржаваю ўсё роўна акрэсьліваюцца ня гэтай узаемнай згодай, а тымі моральна-рэлігійнымі асновамі, якія творацца ўнутры самой царквы **незалежна ад дзяржавы** і тымі юрыдычнымі асновамі, якія творацца ўнутры дзяржавы, **незалежна ад царквы.** Хрысьціянства вуча „аддаваць кесарава кесару“, падпарадкавацца ўладам, плаціць даніну і маліцца за ўладу незалежна ад таго ці іншага палітычнага строю і павінна выпаўняць гэтые запаведзі незалежна ад таго, ці ёсць, ці няма конкордату. А дзержава таксама незалежна ад гэтага павінна даваць і царкве тоя, што пішацца у яе конституцыі для ўсіх арганізацыяў. Гэты **мінімум** узаемных абавязкаў такім чынам ёсьць маральны абявязак і царквы і юрыдычны абавязак дзяржавы без усякіх юрыдычных згодаў. Далейшая сувязь паміж т й і другой ужо залежыць галоўным чынам ад таго, з якой дзяржавай і з якой уладай сутыкаецца царква. З такой, напрыклад дзяржавай і такой уладай, якая прызнае рэлігію „опіюмам для народа“, трудна царкве знайсьці пункты маральнай сувязі. Тут вышэй указаны мінімум павінен стаць максімумам абявазкаў царквы да дзяржавы.

Але чым больш у сваім характары і сваіх мэтах дзяржава і я улада з'яўляецца **хрысьціянскай**, тым больш яны маюць патрэбу ў зблізкэньні з царквой, тым больш пунктаў сутыку паміж імі, тым больш можа быць і гэтая сувязь. Ідэалам адносін можа быць тое, калі дзяржава прызнае маральны аўто-

*) Формула вядомага італьянскага палітычнага дзеяча Кавура (1810—1861).

рытэт царквы, калі яна свае законы стараецца зблізкыць з вымаганьнямі хрысьціянскай маралі, і дае царкве усе вонкавыя магчымасьці выпаўненьня яе высокага служэньня і Богу, і людзям. У такім разе і царква можа пашырыць далей сваю маральную сувязь з дзяржавай і яе ўладай,—нават і падтрымліваць гэтую ўладу, карыстаючы з свайго маральнага уплыву на сваіх верных, бо у такой уладзе царква можа відзець **найлепшае** фактычнае выразшэньне слоў Сьв. Пісанія, што ўсякая ўлада **ад Бога**. Можа быць і дрэнная ўлада, але і яна даецца нам **ад Бога** хоць-бы для наказаньня, як кара за нашы грахі. У такой ўладзе мы павінны (паводле запаведзі царкоўнай) падпарадкавацца, але толькі ў межах адзначанага мінімуму і ня больш. Так нам прэдстаўляюцца **павінныя** адносіны паміж царквой і дзяржавай.

**В. Багдановіч.**

Вільня
29 верасьня 1927.

---

# Беларускія палітычныя групы.

Беларускі палітычны рух, як мы ведаем, у сучасны момэнт скадаецца з трох галоўных палітычных групаў:

1) „Сялянскага Саюзу", які гуртуецца каля газэты „Сялянская ніва", 2) „Беларускай хрысьціянскай дэмакраціі", маючай свой орган „Krynica" і 3) тых групаў беларускага грамадзянства, якія ўваходзілі ў зліквідаваную ўрадам „Грамаду" і цяпер пакульшто астаюцца палітычна не арганізаванымі. Думаем, што частка іх ідэёва гуртуецца каля газэты „Наша праўда".

І „Грамада", і „Сялянскі Саюз" маюць праграмы больш менш сходныя. Абедзьве левыя, абедзьве стаяць на чыста соцыялістычным грунце і розьняцца, асабліва с першага пагляду, хутчэй па духу, чым на сваей пісанай праграме.

Правей іх стаіць трэцьцяя група,—беларуская ха-дэцыя, гуртуючаяся каля „Krynicy". У зямельным пытаньні яна так сама трымаецца досьць левага напрамку аж да падзелу зямлі паміж працоўнымі масамі бяз выкупу, але аднача̀сна прызнае неабходным права ўласнасьці як „падставу культурнага разьвіцця кожнага народу". Галоўнай аднака розніцай гэтай партыі, адрозніваючай яе ад першых, з'яўляецца рэлігійна-хрысьціянскі элемэнт, які займае ў яе праграме і ў дзеяльнасці значнае мейсца. У той час, калі сацыялістычныя партыі адносяцца да рэлігіі па меншай меры індыферэнтна, „Беларуская Х. Д." прызнае вялізарнае значэньне уплываў хрысьціянства на жыцьцё грамадзянска-палітычнае і, як відаць з газэты, імкнецца да такіх уплываў.

Такім чынам мы відзім, што па меры развіцьця беларускага культурнага руху і нацыянальнай сьведамасьці пачынаецца і неабходная ў ходзе гэтага развіцьця дiфферэнціяцiя (раздзяленьне) адзінага няцыянальнага фронта на розныя палітычныя напрамкі і групіроўкі.

Мы ня будзем удавацца ў крытыку праграмаў і дзейнасьці пералічаных палітычных групаў. У канцы канцоў кожная група мае права на істнаваньне, бо калі яна істнуе і жыве, знача ёсьць нейкія соцыяльныя і палітычныя прычыны ў самом жыцьці народа, якія выклікаюць на палітычны гарызонт пэўную групу. Нас у даным разе цікавіць больш нацыянальная, а не палітычная справа, дзеля чаго мы задаём сабе пытаньне: ці ахопліваюць вышэй паказаныя палітычныя групы ўвесь беларускі нацыянальны рух, усі істнуючыя палітычныя пагляды і напрамкі?

У пералічаных групах няма „правіцы". Але мы думаем, што на сучасным беларускім палітычным грунце і не магчыма „беларуская правіца". Народ

беларускі складаецца ў падаўляючай большасьці з беднага працоўнага люду, якой зьўляецца і яго пераважна маладая інтэлігенцыя. У нас няма ні капіталістаў, ні абшарнікаў. Няма і сваей ўласнай дзяржаўнасьці. Адкуль тут можа ўзяцца „правіца“?

Але існуючыя беларускія партыі не ахопліваюць увесь левіцовы элемэнт беларускага народу.

Нас, па нашым паглядам, цікавіць асабліва „Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацiя“, як партыя, якая імкнецца ўнасіць у жыцьцё народу хрысьціянскі элемэнт. Згодным з нашым з'яўляецца і яе пагляды на зямельнае пытаньне. Мы так сама ўважаем што права ўласнасьці ёсьць дужа важны фактар у культурным жыцьці народа.

Самая існаваньне „беларускай хадэцыі“ паказывае, што ня ўсе беларусы трымаюцца соцыялістычных поглядаў. Ня ўсе таксама страцілі і пачуцьцё рэлігійнае.

Але тут мы павінны адзначыць, што і беларуская хадэцыя і „Krynica“ паўсталі сярод **беларуска-каталіцкіх кругоў**, гэтыя кругі твораць склад яе сяброў і прыхільнікаў.

Праўда, беларуская Х.-Д. не забараняе прыняцьце ў сваю партыю, беларусаў і другіх рэлігіяў. У сваей праграме, якая роўна бароніць як правы касьцёла, так і правы царквы, але ўсё-ж такі ёсьць пэўныя псіхолагічныя перашкоды для ўвахода ў гэтую партыю праваславўных беларусаў. Мы ні мала ня думаем тут ні аб рэлігійнай барацьбе, ні аб якой небудзь „рэлігійнай канкурэнцыі“. Мы спаўчуем беларускай хадэцыі, якая сумела сабраць і зарганізаваць беларускія каталіцкія масы, што хацелі-б зрабіць і мы з масамі праваслаўнымі. Але мы павінны адзначыць тут тое, што гістарычная нешчасьце беларускага народу,—падзел яго на дзьве рэлігійныя групы, — стварыло ужо і нейкіх два культурна-гістарычных тыпа беларуса. Вяковы ўплыў рэлігійны ў значнай меры унес ужо і свае зьмены ў нацыянальна-культурнае аблічча беларуса праваслаўнага і беларуса каталіка.

Далейшае супольнае **нацыянальнае** жыцьцё павінна паступова зьменьшыць і зусім згладзіць гэтую розьніцу, але ў гэты час гэта розьніца адчуваецца ў народзе досіць значна. Наружна, напрыклад, гэта выяўляецца у Б. Х. Д. у тым, што яна ўжывае у сваім пісьме і друку лацінку, калі падаўляючая большасьць беларусаў трымаецца сваей гістарычнай кірыліцы. Гэта і служыць псіхалагічнай прычынай, дзеля каторай, і пры поўнай згодзе ў палітычных перакананьнях, праваслаўны беларус устрымліваецца ісьці у існуючую беларускую хадэцыю.

Па гэтай прычыне мы ўважалі-б больш слушным стварэньня новай беларускай палітычнай партыі ў праваслаўна-хрысьціянскім духу, якая мела-б сабраць увесь гэты элемент і ўвясьці яго ў адзіную нацыянальную беларускую сямью.

Зварачываюся да нашых беларускіх палітычных дзеячаў, хто можа гэта зрабіць, нехай зробіць.

**В. Васілевіч.**

**Ад рэдакцыі**: Зьмешчаючы гэтую стацьцю аднаго з нашых супрацоўнікоў, рэдакцыя выражае свае пажаданьне ўслышаць одгукі на яе ад сваіх чытачоў.

# Нацыянальная мова ў праваслаўнай царкве.

Праваслаўная царква ў адносінах да нацыянальных пытаньняў стаіць на грунце Божага Слова. Дзеля яе „нѣсть ні эллін, ні іудей, ні варвар, ні скіф, ні раб, ні свободь“. Нацыянальныя разнасьці, існуючыя паміж людзьмі, ня могуць быць прычынай, устрымліваючай уплыў хрысціянскае ідэі на духоўнае разьвіцьцё народу. Рэлігія стаіць вышэй ўсіх гэтых пытаньняў, але гэта

яшчэ ня значыць, што яна імкнецца да зьніштажэньня ўсіх нацыянальных асаблівасьцяў. Наадварот, яна з ахвотай карыстаецца з іх, і з свайго боку іх падтрымлівае. Уплыў хрысьціянскіх ідэй раскрывае рожныя староны нацыянальнага духу і выяўляе яго нацыянальныя багацьці. З другога боку і сама хрысьціянская ідэя, калі яна зрастаецца з нацыянальным духам і выяўляецца ў яго нацыянальным жыцьці, у свой чарод шырэй выяўляе сваю духоўную сілу і сваі багацьці. Гэта асабліва патрэбна сказаць аб тых нацыях, каторыя да прыняцьця хрысьціянства стаялі на нізкай ступені культурнага разьвіцьця, як народы славянскія. Іх культурнае жыцьцё ня толькі цесна звязана з рэлігійнай культурай, але гэта астатняя з'яўляецца для іх тым фундамэнтам, на каторым будуецца іх нацыянальная культура.

Як ведама, хрысьціянская вера прыйшла да славян, ня выключаючы і польскіх, з Візантыі. Першымі хрысьціянскімі прасьветнікамі былі сьв. брацьці Кірыл і Мэѳодзі, каторыя палажылі і першы камень славянскае культуры, стварыўшы дзеля рэлігійных мэтаў азбуку (кірыліцу) і пералажыўшы на славянскую мову слова Божае і богаслужэбныя кнігі. У далейшым сваім разьвіцьці яна ішла гэтым-жа шляхам. У гэтым-жа напрамку ішла і беларуская культура, калі беларускі народ стаў хрысьціянскім.

Першыя школы закладаюцца пры царквах і манастырах, першыя кнігі перапісываюцца асобамі духоўнымі. Яны-ж былі і першымі сеяцелямі гэтае культуры ў ваўсіх кутках беларускае зямлі. Каму няведамы такія прадстаўнікі і пашырацялі рэлігійнае асьветы, як Кірыл Тураўскі, Клімян Смаляціч, Еўфросінія Полацкая, і хто ня ведае, якую ролю адыгралі ў сваім часе ў пашырэньні духоўнае асьветы Віленскае брацтва, Супраскі манастыр і шмат іншых. Карацей, і культура беларускага народу ішла гэтым-жа шляхам, як разьвіваецца культура кожнага народу, г. е. паўстала і разьвілася з роднае яго праваслаўнае рэлігіі. А дзеля таго, што на шчасьце беларускага народу, праваслаўная вера выкладалася і прышчаплялася яму ў роднай яго мове славянскай, то адгэтуль выяўляецца і значэньне славянскае мовы, як аснаўной падставы беларускае культуры.

Часта гавораць, што ня толькі з пагляду нацыянальных, але і чыста рэлігійных патрэбна каб царква ў багаслужэньню пазаставіла, як кажуць, мертвую мала зразумелую мову славянскую і перайшла на мову народную беларускую.

З пагляду догматычнага і канонійнага ў такім пераходзе няма нічога грэхоўнага і калі-б гэта было карысным для царквы, дык яна бязумоўна сталабы на гэты шлях. Але ёсць пэўныя прычыны, каторыя утрымоўваюць яе ад гэтага, як здаецца з першага пагляду, карыснага для царквы кроку.

Праваслаўная царква заўсёды карысталася з нацыянальнае мовы і давала кожнаму народу магчымасьць адпраўляць царкоўную службу ў яго роднай мове. Так нам ведама царкоўная служба на грэцкай, сэрбскай, румынскай і іншых мовах. Але кожная з гэтых моваў розьніцца ад звычайнае разгаворнае мовы. І гэта зусім зразумела. Рэлігія ёсьць перш-наперш містыка. З гэтага поваду і мова рэлігійная павінна мець пэўную долю містыцызму. Дзеля гэтага самае жыцьцё ўсіх нацыянальнасьцяў адрожняе рэлігійную мову ад звычайнае.

У звычайным жыцьці нацыянальная мова, падлягаючы культурным ўплывам, хутка меняецца, і за пэўны пэрыяд дужа розьніцца ад сваіх первотных формаў, часта распадаецца на некалькі дыялектаў. Царкоўная мова балей кансэрватыўная, яна заўсёды імкнецца да захаваньня старых формаў. Вонкавыя формы мовы як бы асьвяшчаюцца. Вуха рэлігійнага чалавека прызвычаіваецца да іх і праз іх выклікае ў душы адпаведныя рэлігійныя вобразы і прэдстаўленьні. Складаецца навык да вонкавых выразаў малітвы, якія перадаюцца з роду ў род, надаючы гэтым выразам характар сьвятасьці і дзеля гэтага неадменнасьці. Асабліва гэта патрэбна сказаць аб народзе з нявысокім ураўнем культурнага разьвіцьця. Рэлігійнае сумленьне гэткага народу вельмі чутка і беражна адносіцца да ўсялякіх зьмен у гэтай галіне яго жыцьця. Даволі заслацца на гістарычны прыклад рускага расколу ў сваім паўстаньні і разьвіцьці абапіраўшагася на гэтых псіхологічных

падставах, каб перaканацца ў праўдзівасьці сказанага. Ёсьць і другія прыклады, сьцьверджаючыя кансэрватыўныя погляды на перамену рэлігійнае мовы на звычайную. Так у Галіцыі украінскі народ цьвёрда дзержыцца свaей богаслужебнай славянскае мовы, ня ўзіраючы на вымаганьня вызшае духоўнае ўлады да зьмены яе на лацінскую. Ён інстынктыўна адчувае, што яна з'яўляецца для яго асновай яго нацыянальнага істнаваньня і культурнага разьвіцьця. А калі трапляецца, што неякія асобы згаджаюцца на гэту рэформу, дык часьцей ўсяга такія, для каторых рэлігія ня адыгрывае асобнае ролі ў іх жыцьці, і каторыя глядзяць на гэта выключна з пункту гледжаньня палітычнага. Неабдуманны крок ў гэтым пытаньні можа стварыць новыразлом у беларускай нацыі.

Беларуская нацыя на жаль і так падзеляна на праваслаўных і каталікоў, што ня можна лічыць карысным дзеля нацыянальнага разьвіцьця. Тварыць новыя варункі дзеля магчымага далейшага падзелу, — ня карысна з нацыянальнага, ані з царкоўнага пaглядаў.

Ёсьць у гэтай справе і тэхнычныя труднасьці дзеля грунтовага яе выкананьня,— гэта адсутнасьць перакладу на беларускую мову бібліі. З першага пагляду здаецца, што гэта справа вельмі простая. Але як паглядзець ў гісторыі перакладу сьв. бібліі на іншыі мовы, дык адразу стане ясным, сколькі навуковых сілаў з вялікай навуковай эрудыцыяй, якога патрэбна багацтва народнае мовы, каб перадаць усе тонкасьці мысьлі гэтае вялікае кнігі. Патрэбна шмат усяго таго, чаго ёсьць пакуль так мала ў маладой беларускай культуры. А перакладаць на беларускую мову царкоўную службу, ня маючы пераложаннае бібліі, гэта рэч немагчымая.

З майго пагляду, пераклад царкоўнае службы на разгаворную мову будзе някарысным і дзеля культуры самае беларускае мовы. Усялякая мова, адарваная ад сваіх істокаў (крыніц), якімі з'яўляецца для беларускае мовы мова славянская, дужа хутка падпадае ўплыву другой, болей разьвітай мовы, асабліва блізкай па вымаўелньню. Калі-ж гэтакай мовы няма, дык і чужой. І гэта зусім зразумела. Як вышэй было гаворана, асновай усялякае культуры ёсьць культ, рэлігія. Калі ў аснове рэлігійнага культу ляжыць родная мова, тады для разгаворнае мовы яна служыць тою крыніцаю, з каторае карыстаецца першая ў сваім культурным разьвіцьці. Калі-ж гэтакай мовы няма, тады яна мусіць у сваім развіцьці падпадаць уплыву чужой болей культурнае мовы.

Яскравы прыклад падобнага роду ўплыву чужых моваваў можна бачыць на мове польскай, у каторай шмат выразаў з іншых моваў, лацінскае, нямецкае і г. д. З гэтага пагляду славанская мова павінна быць захована ў царкве, як адна з срэдстваў культурнага разьвіцьця беларускае мовы.

Але захоўваючы славянскую мову, як мову рэлігійнага культу, праваслаўная царква ў другой галіне свайго жыцьця, ў галіне выкладаньня рэлігіі і царкоўнага казаньня павінна заўсёды ўжываць родную мову. У роднай мове лягчэй успрамаюцца рэлігійныя ісціны, з другога боку і самую рэлігію родная мова зрадняе з народным духам. Кожнаму ведама, што Сэрбы, Грэкі, Беларусы і г. д. аднае праваслаўнае рэлігіі. Калі-ж прыглядзецца да іх рэлігійнага жыцьця, то лёгка заўважыць, як многа ў тым жыцьці кожнага з гэтых народаў ёсьць адмеменнага, прыўнесяннага нацыянальным яго гэніям.

Значэньне нацыянальнае мовы ў навучэньні рэлігіі яскрава выяўляецца ў наступным прыкладзе.

Калі прапаведнік прамаўляе на роднай мове да сваей паствы, дык заўсёды ён карыстаецца з яе прыхільнасьці. Паміж прапаведнікам і паствaю завязываецца духоўная сувязь, каторая дае яму магчымасьць рэлігійных уплываў на народныя масы. Наадварот, калі прапаведнік гаворыць сваю прамову ў расейскай мове, каторая для беларусаў была мовай афіцыяльных аднінаў паміж народам і ўладай, дык тады паміж пастырам і паствaю як-бы ўстае сьцяна афіцыяльнасьці і духоўнага адчуждзеньня.

На жаль гэтыя погляды вельмі трудна прабіваюць сабе дарогу ў сазнаньні праваслаўнага духавенства, каторае ў гэтым пытаньні трымаецца старых традыцыяў і з гэтага поваду часта ня прыносіць тэй карысьці, якую яна магла-бы прынясьці для роднага яму беларускага народу.

**Прат. Л. Голад.**

# МЭМОРЫЯЛ

**Сяброў аб'яднанае царкоўнае камісіі з прэдстаўнікоў беларускага нацыянальнага камітэту і расейскага народнага аб'яднаньня ў Вільні. *)**

Характэрным з'явішчам астатняга часу ёсьць тоя, што ў Беларускай, Расейскай, Украінскай, а нават і Польскай прэсе дужа часта памешчаюцца стацьці, датычучыя палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы.

Пры гэтым відаць, што гэтае пытаньне на старонках газэт і сярод грамадзянства абгаварываецца дужа востра. Разгляданьне гэтага пытаньня з Польшчы пераносіцца за граніцу, пры гэтым і там часта разважываецца ня менш востра, і ў паняцьцях эўрапейскіх палітыкаў цэсна злучаецца з пытаньнем палітычнага істнаваньня Польшчы. З гэтага, па-першае, відаць што пытаньня гэтае ўжо сазрэла і вымагае найхутчэйшага развязаньня, а па-другое, што гэты спосаб развязаньня гэтай справы, які быў ужываны дасюль папярэднімі ўладамі Польшчы, не правідловы і вымагае грунтоўнай зьмены. Самая завастрэньня пытаньня дае магчымасьць дапусьціць, што ў справе палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы і інтэрэсы Польскай Дзяражавы і Праваслаўнай Царквы спаткаліся гдзе-сь у бязвыхадной спрэчнасьці. Ідзе барадзьба бязумоўна шкадлівая для абедзьвюх старон, і гэта змушывае нас астанавіцца над пытаньням: ці ў запраўды дамаганьня аднэй і другой стараны спаткаліся ў бязвыхадней спрэчнасьці.

Адказваючы на гэта, мы з поўным перакананьням сьцьвярджаем, што ня толькі тут няма бязвыхаднай спрэчнасьці, але наадварот,—праўдзівая пастаноўка пытаньня дае падставы да зусім лёгкага, спакойнага і карыстнага як для Царквы, так і для Дзяржавы, вырэшеньня пытаньня; трэба толькі зьмяніць цьвёрда і безпаваротна той мыльны кірунак, які выбралі папярэднія ўрады.

Мы перакананы ў тым, што галоўнай памылкай іх (гэтых урадаў) было тоя, што яны, прыступаючы да вырашэньня гэтага пытаньня, не зьвярнулі ніякай увагі на карэнныя зьмены, якія ўтвораны былі ўнутры самой „Усерасейскай Праваслаўной Царквы, якая пры царскіх урадах па свайму палажэньню і значэньню ў дзяржаве прэдстаўляла сабой запраўды як бы прадаўжэньне дзяржаўнай улады. Гэтакае зусім неправідловае, з пункту гляджэньня праваслаўных канонаў, палажэньне царквы ў дзяржаве было радыкальна зьменена на Усерасейскім Праваслаўным Саборэ ў Маскве ў 1917-18 г. г. (Мусім зазначыць, што ў склад гэтага сабора ўваходзілі прадстаўнікі праваслаўных епархіяў ня толькі ўсей Расеі, але і іншых: Эўрапейскія, З'едначоных Штатаў, Канады, Паўднёвай Амэрыкі, Японіі і Кітаю, дзеля чаго названьне Усерасейскі ёсьць толькі форма далёка цясьнейшага ад запраўднага значэньня і ўплыву Сабору).

На гэтым Саборэ Царква аканчальна парвала даўнейшую сувязь з дзяржавай і падробна і пунктуальна выпрацавала сталый строй унутрэньняга ўпраўленьня на асновах каконічных і ў духу характэрыстычнай для праваслаўнай царквы сабарнасьці; ад гэтага часу гэты строй стаўся чынным правам (дѣйствующим кононом), абавязываючым усе асобныя часткі царквы, а ў гэтай лічбе і тыя часьці, якія цяпер уключаны ў граніцы Польскай Рэспублікі.

Царква Усерасейская цяпер нічым не зьвязана: а ні з даўнейшым расейскім дзяражаўным строем (бо і самая рэформа полягае на поўным разрыве з тым строем), а ня тым болей з стромем новым, у якога яна, як гэта добра ведама, ня карыстаецца даверыем. Гэтую акалічнасьць мы падкрэсьліваем з аса-

---

*) Гэты мэморыал, зложаны ў канцы 1926 г., быу праз аднаго з сяброу камісіі, сэн. В. Багдановіча, пры асобным лісьце пададзен міністру асьветы. Невялічкія выпіскі з гэтага мэморыалу былі зьмешчаны ў некалькіх польскіх, расейскіх і беларускіх газэтах. Цалком ен яшчэ ня быў надрукован нідзе. Дзеля гэтага ўмяшчаем яго ў нашым органе у перакладзе на беларускую мову. Як было чутна Урад дужа зацікавіуся ім, але пакуль што практычных рэзультатау мы ня ведаем.

блівым націскам, бо заўсёдышнія прыклады нас пераканалі, што некаторыя з прадстаўнікоў дзяражаўнай ўлады з падазрэньнем глядзяць на нашы зсылкі на пастановы Маскоўскага Сабору, бо бачаць ў іх палітычныя імкненьня на ўсход, калі-ж запраўды гэта была толькі самая звыклая і самая неабходная зсылка на каноны, і зьмяшчала ў сябе сама столькі палітычнага элемэнту, колькі зсылка і на якій небудзь канон Карфагенскага Сабору.

Гэтакія адносіны папярэдніх ураdaў да царквы можна часьцёва аб'ясьніць тым, што далёка ня ўсе вышэйшыя праваслаўныя іерархі ў Польшчы з радасьцю і з ахвотай спатыкалі новы строй царквы. Многія з іх глядзелі на гэта воража, а асабліва на „прынцып выбарнасьці іерархіі, і захоўвалі сымпатыі да даўнейшага строю, які гварантаваў ім больш спакойнае жыцьцё і прывільлёвае палажэньне іх царквы, а нават і ў дзяржаве.

Гэтыя іерархі стараліся вярнуць папярэдні строй і пачалі ўводзіць даўнейшыя парадкі, як толькі магчымасьць гэтага стварылася ў Польшчы.

Вось гэтыя іерархі і ўвялі ў памылку ўрад, прыхіляючы яго зьвярнуцца да старага строю і дэкляруючы ў гэтым выпадку давясьці жыцьцё царкоўнае да парадку так неабходнага для ўспакаеньня жыцьця дзярж[illegible]ўнага.

Увялі яны ўрад у памылку і ў тым напрамку неправідлова і спрэчна з канонамі, што паказалі ўраду на Канстанцінапольскі патрыархат, як на крыніцу іерархічнай улады для праваслаўнай царквы ў Польшчы.

Дзеля гэтага мы з усей сьвядомасьцяй і ўпорнасьцяй, гэтым заяўляем, што сучасны склад вышэшай царкоўнай іерархіі ў Польшчы ёсьць з пункту гледжэньня царкоўнага незаконным, бо іерархія гэта ня карыстаецца ані даверыем верных, якое маглі-б здабыць праз законныя выбары ані вышэйшай законнай правамоцнай царкоўнай улады праз кананічныя назначэньня.

Вядома, што з гэтага ня выйшла ані пажаданага ладу, ані парадку, а наадварот: стварыўся ўнутраньні разлад у самай царкве і незадаваленьня ў адносінах да цівільнай улады, бо народ праваслаўны аказаўся ў трагічным палажэньню, будучы змушаны ў імя лёяльнасьці да дзяржавы і пад націскам варункаў грамадзкага жыцьця (мэтрыкі) наружна прызнаваць і падпарадковывацца той царкоўнай уладзе, якой ён ня можа прызнаваць за законную паводле свайго рэлігійнага сумленьня.

Зложылася нешта нелагічнае і ў стасунку гэтай іерархіі да ўраду, бо калі папярэдні строй царквы быў яшчэ магчымым пры манархічным урадзе з аднаверным царом на чале, дзе блізкасьць ураджавай улады да ўлады царкоўнай часьцёва апраўдывалася і згладжывалася ідэалам цара, як памазаньніка Божага, як бы наместніка і прадстаўніка Божай улады на зямле (тэорыя цэзарэпапізма), то пры строе рэспубліканскім, гэтая форма царкоўнага строю не апраўдываецца нічым.

Наадварот, новы строй царквы на падставах саборнасьці і ёсьць іменна такім, які найбольш блізкі, найбольш адпавядае рэспубліканскай уладзе Польскай дзяржавы і шырокай яе Канстытуціі.

Слушнасьць нашага пагляду падцьверджае само жыцьцё. Такія іменна, якіх вымагае самае жыцьцё, адносіны мы бачылі паміж урадам і іншымі вызнанёвымі гмінамі нацыянальных меньшасьцаў у Польшчы: стараабрадцаў, эвангэлікаў, жыдоў і магамэтанаў. На нашых вачох у тым самым м. Вільні адбыліся ўсе польскія з'езды стараабрадцаў і магамэтанаў. Урад нічым ня перашкаджаў ім самым выбраць тых асобаў, у рукі якіх гэтыя рэлігійныя групы захацелі зложыць сваю рэлігійную судзьбу, і толькі адзін народ праваслаўны пазбаўлены гэтага права. Можна думаць, што толькі даўнейшыя ассоціаціі перашкодзілі папярэднім урадам заняць тую самую пазыцыю і ў адносінах да праваслаўных.

Мы ня трэбуем ад дзяржавы нічога больш таго, на што маем права па Канстытуцыі Польскай Рэспублікі, але ўважаем за безумоўнае тое, каб стаць у адносінах да гэтай Канстытуцыі нараўне з іншымі абыватэлямі.

(Працяг будзе).

# Беларуская народная асьвета ў Латвіі.

У месяцы жніўні гэтым летам здарылася мне некалькі дзён пабываць у Латвіі. Хачу ў гэтым лісьце падзяліцца з чытачамі „Праваслаўнай Беларусі" тымі данымі і тымі ўражаньнямі, якія ў гэтыя дні ўдалося мне дабыць аб беларускай школе, — справа як ведама, адна з самых балючых для беларусаў, якія жывуць у Польшчы.

Паводле афіцыяльнай перапісіі 1925 году беларусаў у Латвіі лічыцца больш 38 тысячаў.

На гэтую лічбу маецца ў Латвіі 36 беларускіх так званых аснаўных (пачатковых) школаў і 2 сярэдніх. (Гімназія ў Дзьвінску і вучыцельскія курсы у Рызе). Гэта прыходзіцца адна пачатковая школа троха больш як на тысячу беларусаў і адна сярэдняя — на васемнаццаць тысячаў. Усе гэтыя школы лічацца дзяржаўнымі і трымаюцца на кошт часткова дзяржавы, а часткова самаўрадаў.

Беларуская гімназія ў Дзьвінску пастаўлена дужа добра з пункту гледжаньня і вучэбнага і выхаваўчага.

Пры гімназіі ёсьць бібліатэчка, фізычны і хімічны кабінэты, хор, аркестр, драматычныя і навет балетныя гурткі, радыо, гурток і некалькі майстроўняў рамесьляных: мэханічная, сьлясарная, такарная, стопярная, шавецкая і ткацкая. Вядуцца таксама практычныя заняцьця ў садзе.

Дырэктар гімназіі С. П. Сахараў. Дырэктар пэдагагічных курсаў у Рызе — п. Дзэмідаў-

Для апекі над усей беларускай асьветай пры міністэрстве асьветы ёсьць асобны беларускі аддзел, які аўтаномна кіруе беларускімі школамі. Складаецца гэты аддзел выключна з беларусаў. На чале яго стаіць К. Б. Езавітаў.

Пасьля гэтых усіх данных мімаволі ўстае пытаньне: а ў нас — на 1½ мілёны беларусаў?

**В. Богдановіч.**

# Значэньне коопэрацыі ў жыцьці грамадзянства.

Баявым лёзунгам у цяжкім жыцьці нашага люду ў цяперашні мамэнт зьяўляецца дамаганьне ў роднай мове сваей школы.

Адначасна з напружанай працай найбольш выдатных асоб у гэтым кірунку мы павінны павясьці ня менш упорную працу і ў другой галіне нашага жыцьця, якое таксама мае вялізарнае значэньне дзеля дабрабыта і сьвядомасьці нашага грамадзянства. Я маю на мэце разьвіцьцё коопэрацыі, людзкую сьвядомасьць у ей і карысьць ад яе.

Дужа вялікім, ворагам разьвіцьця і пашырэньня коопэратыўнай працы сярод беларускага грамадзянства зьяўляецца незацікаўленьне ею ня толькі нашага селяніна, а, нажаль, і інтэлігэнта. Як магілковы помнік, душыць гэтае наша незацікаўленьня шмат і другіх добрых ідэй і пачаткаў.

Ідэя коопэрацыі ўва ўсіх яе абліччахпа сваей ясьнасьці і прастаце можа вытрымаць любы конкурс. Дык і запраўды няма нічога дзіўнага, або незразумелага, што неякая колькасьць людзей гуртуецца дзеля таго, каб мець магчымасьць купляць сабе харчавыя, або іншыя тавары магчыма лепшага гатунку і магчыма па недарагой цане

з першых рук,—мець магчымасьць, у разе патрэбы, атрымаць недарагую пазычку грошаў за нявялікія працэнты.

Апрача сваей асабістай карысьці, людзі гэныя прыносяць карысьць на грунце культурна-эканамічным наогул усяму грамадзянству.

Яны вядуць барацьбу з прыватнымі гандлярамі з іх злаўжыткамі, і той зыск, які прыватныя гандляры кладуць у свой асабісты кішэнь—пры коопэрацыі звычайна выкарыстовыецца цэлым таварыствам на рожныя культурна-асветныя мэты.

У Заходняй Эўропе, гдзе арганізацыйны рух дужа мацнейшы, чым у нас, коопэратыўныя таварыствы лічаць сваіх сяброў сотнямі тысячаў і мільёнамі. Ня чуючы неабходнай патрэбай гаварыць тут аб разьвіцьці коопэрацыі паасобна ў кожнай старане, я затрымаюся толькі на яе разьвіцьці ў мінулым ў Швайцарыі, жыцьцёвыя варункі якой у тую пару былі дужа цяжкімі.

У сувязі з вялізарным рэакцыйным уціскам народу з боку швайцарскіх паноў, цяжкімі падаткамі і дрэнным кіраўніцтвам ураду ў 40-гадох XIX сталецьця жыцьцё для народу стала немагчыма цяжкім. Вартасьць на рэчы першай патрэбы дайшла да нязвычайных размераў. Запамятаваны былі ў шырокіх кругох грамадзянства думкі аб выгадах жыцьця, бо трэба было ратаваць сябе ад галоднай сьмерці.

І вось у гэтую пару зьявіліся найвыдатнейшыя людзі, якія распачалі на экономічным грунце барацьбу з зробленай праз паноў разрухай, зьнішчэньням краю і народу.

З пачатку ў гарадох, а потым і ў вёсках пачалі ўзьнікаць коопэратыўныя таварыствы. Гэныя таварыствы з'явіліся як-раз у пару, бо-ж усё трашчала і разваліваласся ад кіраваньня панскага ўраду; гаспадарчы арганізм дзяржавы пачаў разлезацца па ўсім швам ад штрайкаў, дэманстрацыі, абабранага голага і галоднага грамадзянства.

На заклік маладых таварystваў адазваліся асобы зусім адданыя свайму люду, ня ўтраціўшыя надзеі адратаваць яго ад бяды.

Яны аддалі ўсю сваю энэргію, розум і шчырую любоў справам свайго народа і, згуртаваўшыся ў коопэратыўныя таварыствы, сваею працаю хутка палепшылі дабрабыт грамадзянства і дзяржавы.

Пара і нам скінуць сьпячку, пара ўзяцца за працу на гэтым грунце. Неабходна выклікаць у грамадзянстве даверые да згуртаваньня і працы на коопэратыўным грунце, а гэтае даверые зьявіцца тады, калі будзе пашырана сярод грамадзянства сьвядомасьць а значэньні ў яго жыцьці і на яго карысьць коопэрацыі.

Хто ў нас павінен стаць на чале гэтае працы? Інтэлігэнцыя—як сьвецкая, так і духоўная. Тут шырокі прастор для працы людзей розных паглядаў палітычных і сацыяльных і рэлігійных. На гэтым грунце могуць аб'яднацца ўсе, хто праўды шчыра любіць свой родны народ і жадае яму дабра.

Значны ўдзел гэнай працы павінна ўзяць духавенства, бо-ж праца на грунце коопэратыўным па сваей сутнасьці запраўды блізкая да працы на грунце рэлігійным. Яна імкнецца вырашыць у духу хрысьціянства вялікія праблемы практычнага жыцьця: як запоўніць непраходную пропасьць паміж багатымі і беднымі, як зьнішчыць антаганізм паміж капіталам і працаю, як устроіць, каб разьвіцьцё тэхнікі палегчала працу працаўнікоў, замест таго каб зусім пазбаўляць іх працы і г. д. Коопэрацыя павінна зьнішчыць прымусовую працу падобна таму, як хрысьціянства зьнішчыла рабства.

**Вукол.**

---

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Палітычная хроніка.

— **Адклад надзвычайнай сэсіі Сойму.** Дэкрэтам п. Прэзыдэнта з 20 верасьня г. г. адложаны на 30 дзён пасежаньня Сойму пасьля першага яго пасежаньня, на каторым Сойм скасаваў выданый праз п. Прэзыдэнта прэсавы дэкрэт. Урад не згадзіўся з пастановай Сойму аб скасаваньне дэкрэту з таго фармальнага погляду, што ён (дэкрэт) ня разглядаўся у Сэнаце і дзеля таго ня можа быць апублікованы у „Дзеньніку Уставаў“, як таго зажадаў Сойм. Гэтым спосабам пресавый дэкрэт пазастаецца у сілі і на далей.

— **Сэнат у адклад.** Таксама адложана на гэты самый тэрмін і сэсыя Сэнату каторы па сваім скліканьні не адбыў ані воднага паседжаньня. Па атрыманьні дэкрэта Прэзыдэнта, Маршалак Сэнату п. Трампчынскі, на нарадзе з з павадырамі партыяў, ад імя Сэнату злажыў да п. Прэзыдэнта ўрачысты пратэст аб нарушэніі 25 і 37 ст. Канстытуцыі.

— **Пасол Сабалеўўскі ў Беларускім Клюбе.** 19-га верасьня г. г. беларускі пасол да Сойму Юры Салалеўскі, каторый да гэтуль ухадзіў у партыю Работніцка - Селянскае Грамады, увайшоў у Беларускі Пасольскі Клюб.

Пасол Юры Сабалеўскі, які прасядзеў 9 месяцаў у вастрозе на Лукішках, а вызвалены з вастрогу, дзякуючы пастанове Сойму, прынятай на прапазыцыю Беларускага Пасольскага Клюбу, выступіў з Пасольскага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і ўступіў у Беларускі Пасольскі Клюб. У сувязі з гэтым пасол Ю. Сабалеўскі выдаў камунікат, у якім вылажыў матывы свайго выступленьня з Клюбу Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады. Гэная дэкларацыя наступнага зьместу.

1. Далейшая акцыя Грамады наагул а асобна і мая, у ёй будзе прычынай укіданьня ў польскія вастрогі лепшых беларускіх сіл. Я, будучы сынам Беларускага Народу і з цэлай душы жадаючы палягчыць цяжкай яго долі, жадаю лепш сам цярпець у вастрозе, чымся прычыняцца да запоўняньня вастрогаў беларускімі сялянамі, і праз гэта да зьністажэньня сем'яў, што асталіся на волі.

2. Беларуская Грамада вяла сваю працу пераважна ў кірунку ўсьведамляньня беларускіх гушчаў з палітычнага пункту гледжаньня, затое вельмі мала зварочвала ўвагі на рэчы важнейшыя для беларускай вёскі, на нацыянальнае ўсьведамляньне, на культурна асьветную працу і на паляпшаньне гаспадарчага палажэньня Беларускага Народу.

3. Дасьледы мае на ніве арганізацыі вясковых гаспадарак, чэрпаныя з крытэрыяў культуры Захаду, а набытыя 20-летняй маей працай сярод Немцаў, Літвіноў, Латышоў — вучаць мяне, што шмат недамаганьняў у агульным жыцьці Беларускага Народу можна адсунуць праз прытарнаваных вышэйшай культуры ў гаспадарчым жыцьці гэтага Народу. Для зьдзейсьненьня затым гэтае мэты і намерваюся прысвяціць далейшую сваю працу. Але дзеля таго, што гаспадарчае жыцьцё ёсьць рэзультатам усіх формаў палітычнага жыцьця народу, буду імкнуцца да ўспомненай мэты праз кансалідацыю гэных беларускіх сіл дэмакратычных, якія шчыра працуюць пад поўным вызваленьнем Беларускага Народу, як з пункту гледжаньня гаспадарчага, культуральнага, так і палітычнага.

**Юры Сабалеўскі.**
Пасол Сойму.

Варшава, 19 IX 1927 г.

— **Новае павялічэньне Беларускага Пасольскага Клюбу.** Паслы Шапель і Шакун падалі заяву ў Беларускі Клюб, у якой просяць прыняць іх у гэты клюб. У Сойм яны былі выбраны і прайшлі ад польскай партыі „Вызваленьня“, адкуль яны перашы да „Незалежнай Хлопскай Партыі“, на чале якой быў вядомы Ваяводзкі.

Нарэшце вярнуліся да свайго нацыянальнага клюбу.

## Заява паслоў Шапеля і Шакуна.

У Беларускі Пасольскі Клюб.

ЗАЯВА.

Будучы выбраннымі ў 1922 годзе ў Польскі Сойм галасамі беларускага сялянства са сьпіску польскае партыі „Вызваленьне", спадзяваліся мы найсьці там шчырыя адносіны да беларускага руху і абароны правоў нашага беларускага сялянства. Але пасьля 2 гадоў, пераканаўшыся, што ў „Вызваленьні" няма шчырае абароны правоў, ды інтарэсаў Беларускага Народу,—мусілі выступіць з гэнае партыі.

Далей увайшлі мы ў новаарганізованую „Незалежную Партыю Хлопскую", думаючы, што пад яе сьцягам можна будзе вясьці барацьбу за правы і інтарэсы беларускага сялянства. Аднак пераканаліся мы, што тактыка і кірунак працы, распачатай павадырамі партыі Н. П. Х., былі шкоднымі для беларускага сялянства; спаткаліся мы там з агіднай правакацыяй, якая загнязьдзілася сярод партыі.

Бачачы, што нам, Беларусам, няма месца ў радох Н. П. Х., пакінулі мы гэтую партыю і ўтварылі „Радыкальную Сялянскую Партыю Беларускіх Зямель".

Дык вось, прышлі мы да перакананьня, што ў сучасны цяжкі для Беларускага Народу момант, ёсьць канечным не разьбіцьцё, не падзел на дробныя партыі, а аб'яднаньне ўсіх шчырай думкі беларускіх народных сіл і дзеля гэтага мы, як сыны Беларускага Народу, **пастанавілі ўступіць у Беларускі Пасольскі Клюб,** які праз увесь час стойка бараніў правоў Беларускага Народу і высака трымаў Беларускі сьцяг у Сойме, ня гледзячы на тое, што яго праца ішла і ідзе ў нязвычайна цяжкіх абставінах, ня гледзячы на тое, што некаторых сяброў яго спаткаў цяжкі лёс за кратамі турмаў польскіх.

**Уладзімер Шакун**

**А. Шапель**

Паслы Сойму.

— **У Нямеччыне.** Нямецкі прэзыдэнт Гіндэнбург пры адчыненьні памятніка над пагібшымі дзеля Танепбэргу сказаў прамову, у каторай ствердзіў, што ніхто у Нямеччыне не прызнае нямецкай віны у выбуху вайны. Гэтакім спосабам Гіндэнбург ад імя усяга нямецкага народу адкрыта аб'явіў, што немцы лічаць несправедлівымі пастановы Вэрсальскага трактату, які юрыдычна і маральна абапіраецца у сваіх некарысных дзеля немцаў пастановах на грунце вінавальнасьці немцаў. Гэта прамова выклікала вялікае нарушэньне ў Францыі і наагул у Еўропе.

— **Новы савецкі пас. у Варшаве.** Гэтымі днямі мае прыехаць у Варшаву новы савецкі пасол Богомолоў, якого ўжо згадзіўся прыняць Польскі Урад.

Дагэтуль ён займаў становішча савецкага сэкрэтара пасольства ў Вені і апошні час у Англіі.

— **Гаспадарчы мір у Эўропе.** На сабраньні Лігі Народаў закончылася гутарка над пастановамі міжнароднай гаспадарчай канфэрэнцыі. Дэлегаты розных краёў сказалі шмат прамоваў, у якіх падчыркнулі аб вялікім значэньні гаспадарчай канфэрэнцыі дзеля эўропэйскага міру.

— **Баўгарска-югаславянскі канфлікт.** Згодна з інструкцыямі, атрыманымі з Белграду, югаславянскі міністар поўнамоцны ў Сафіі, Нэсін, злажыў візыт у баўгарскім міністэрстве замежных справаў і зьвярнуў увагу баўгарскаму ўраду на надта паважныя кансэквэнцыі, якія могуць стаць на перашкодзе прыхільным адносінам паміж двумя краямі з прычыны дзейнасьці неадказных дзейнікаў баўгарскіх, а гэтак сама частых нападаў банд на югаславянскую тэрыторыю.

Баўгарскі міністар вонкавых справай упэўніў пасла Нэсіна, што дасьць адказ пасьля нарады з міністрамі кабінэту.

— **Гішпанія перад рэвалюцыяй.** З гішпанска-французскай граніцы перадаюць, што ў Гішпаніі чакаюць узрыву рэвалюцыі. Прымо-дэ-Рывэра, які знаходзіцца ў Сан-Сэбастыяне, у сваім камунікаце пагражае страшэннымі карамі за нарушэньне парадку, пачыншчыкі будуць передавацца пад ваенны суд, а маемасьць іхняя будзе канфіскавана.

# АБВЕСТКІ



(глядзі 2-ю стар.)

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.